ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №94 (4451) СЕРАДА, 23 лістапада 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## 23, 24 і 25 лістапада Вы яшчэ можаце зрабіць сабе падарунак да Новага года — падпісацца на адзіную ў Беларусі газету, якая выражае інтарэсы настаўнікаў

З ПОШТЫ

## А ЗМЕН ТАК І НЕ БАЧЫЎ...

Я ўважліва прачытаў у "Настаўніцкай газеце" артыкул "Меншай колькасцю, але большай якасцю" спецыяліста-арганізатара Лунінецкага раённага аддзела адукацыі П.Корпца і хачу выказаць сваю думку. Поўнасцю згодзен з аўтарам. Да якога часу, скажыце, настаўнік фізкультуры, ён жа завуч, будзе правяраць матэматыку або фізіку? Прабачце, як зрэагаваў бы ўрач, калі б яго працу правяраў будаўнік?

На жаль, у школах, дзякуючы такому становішчу спраў, нярэдка падхалімы і прыстасаванцы правяць баль. Яны ўмеюць ладзіць з дырэктарам, які можа ўсё. А з добрага настаўніка, пры вялікім жаданні, можна "зрабіць" лайдака, з дрэннага — настаўніка вышэйшай катэгорыі. Асабліва гэта датычыць сельскай школы, дзе настаўніку няма куды падацца. Лічу, што павінна быць незалежная дзяржінспекцыя, якая правярала б працу настаўнікаў і кіраўнікоў школ.

Па выніках праверкі ўсе катэгорыі служачых адукацыі павінны атрымліваць адпаведную ацэнку. Толькі канчатковы вынік дзейнасці настаўніка — узровень ведаў вучняў — павінен служыць крытэрыем яго педагагічнага майстэрства.

Я працую ў школе 23 гады. І ніякіх прынцыповых змен у жыцці школы так і не бачыў. Ці адбудуцца яны цяпер?

**Міхаіл ЦЯЛЬПУК,**
**настаўнік Станцыі Дзятлавіцкай базавай школы Лунінецкага раёна.**

## "АНЖЭЛІКА І КАРОЛЬ" У ЯКАСЦІ ДАПАМОЖНІКА

Нядаўна абышоў усе кніжныя магазіны нашага горада і... няма слоў, каб апісаць убачанае. Але паспрабую. Дзе гэта бачна, каб не было ніякай дадатковай літаратуры для настаўнікаў: навучальна-метадычных дапаможнікаў па прадметах, па выхаванні вучняў, дыдактычных матэрыялаў.

Добра, што ў старых настаўнікаў тое-сёе ёсць, сабралася за гады працы, хоць ім таксама хочацца набыць нешта новае, сучаснае, арыгінальнае. Але як быць маладым, якія толькі пачынаюць сваю педагагічную дзейнасць? Будзе вельмі сумная карціна, калі прыйдзецца тлумачыць новую тэму толькі па падручніку. Тых ведаў, якія атрыманы ў ВНУ, не заўсёды хапае. А настаўніку ж, як нікому іншаму, трэба пастаянна вучыцца, удасканальвацца, таму што ў адваротным выпадку ён ператворыцца ў рамесніка.

Чалавеку, які далёкі ад педагогікі, гэтыя думкі здадуцца незразумелымі. Маўляў, тэму знайшоў — якая тут літаратура і дапаможнікі для настаўнікаў, калі сёння кожны думае толькі пра хлеб надзённы. І ўсё ж калі мы будзем думаць толькі аб фізічным голадзе, забываючы аб голадзе маральным, то заўтра ўсе маральныя асновы будуць ператвораны ў пыл, і мы станем дзікунамі, якія клапоцяцца толькі пра свой страўнік.

Прачытае гэтыя радкі чыноўнік, ад якога ў нейкай ступені залежыць выхад у свет новых выданняў для настаўнікаў, і будзе сцвярджаць: няма грошай, няма паперы, няма таго, няма сяго. І хацелася б ва ўсё гэта верыць, але, як гаворыцца, верыцца з цяжкасцю. Зайдзіце ў любы магазін, яны запоўнены камерцыйнай літаратурай (так званай каштоўнай макулатурай). А кошт які! На ўсё гэта ёсць і грошы, і папера. Скажам шчыра: сорамна за дзяржаву, у якой нуворышы ўзбагачаюцца за наш з вамі кошт, а адукацыі застаецца, як гаворыцца, "дуля з макам".

Узяць такое пытанне, здавалася б, далёкае ад настаўніцкіх праблем, як прадастаўленне банкаўскім работнікам і прыбліжаным асобам беспрацэнтных крэдытаў. Чаму б не прадаставіць такі крэдыт настаўніку? Ці ён яму не патрэбны? Ды як яшчэ патрэбны! Ці, скажам, адмовілася б ад такога крэдыту выдавецтва "Народная асвета", каб выдаць патрэбныя для настаўнікаў розныя дапаможнікі? У многіх вучоных, метадыстаў, вопытных педагогаў і выкладчыкаў педагагічных навучальных устаноў ёсць цікавыя і патрэбныя для настаўнікаў напрацоўкі, якія існуюць у рукапісах, але яны нічога не могуць выдаць. Ім адказваюць: шукайце фундатараў! Дзе іх знойдзеш. Ім жа патрэбна штомінутная выгада. А тут выпускай дапаможнік для настаўніка, ды яшчэ і на беларускай мове. Лепш ужо выдаць што-небудзь сексуальна-эратычнае...

Такія вось сумныя думкі выклікала ў мяне наведанне кніжных магазінаў.

**Яўген ШЫРОКІ,**
**настаўнік.**

Бабруйск.

РЭЗАНАНС

## "У ДЗЕТАК МЕРЗНУЦЬ ПАЛЬЧЫКІ"

На Ваш артыкул ад 15 кастрычніка 1994 года "У дзетак мерзнуць пальчыкі" аддзел адукацыі райвыканкама паведамляе наступнае. У верасні — кастрычніку бягучага года праведзены капітальны рамонт электракацельнай Арабаўшчынскага яслі-сада. Заменены адзін кацёл ЭПЗ-100. Падключана акумуліруючая ёмкасць. Праведзена рэвізія электраабсталявання і сантэхнікі сіламі "Райсельэнерга" і ПМК "Сельгастэхнікі".

Да пачатку ацяпляльнага перыяду кацельня падрыхтавана поўнасцю.

Патрабуемы тэмпературны рэжым у памяшканні яслі-сада вытрымліваецца.

**В.КРАЎЧУК,**
**загадчык Баранавіцкага райана.**

## Нацыянальная педагагічная рада: абмяркоўваем стратэгію рэфармавання адукацыйнай сістэмы

## ЁСЦЬ ШАНЦ СТВАРЫЦЬ ІДЭАЛЬНУЮ МАДЭЛЬ. АЛЕ І СЕКЧЫ З-ЗА ПЛЯЧА НЕЛЬГА

Гісторыя сусветнай адукацыі пераканаўча сведчыць: як толькі школа перастае адпавядаць патрэбнасцям грамадства, адбываецца яе рэформа. Тое, што наша школа нас не задавальняе, факт. Ён з усёй відавочнасцю праяўляецца ў тым, што ёю незадаволена сям'я, незадаволены вучні.

А наша ж школа не стала сёння горш, чым яна была ўчора, проста змяніліся ўмовы, у якіх яна дзейнічае, практычна вычарпаны магчымасці яе далейшага развіцця ў рамках дзеючай у Беларусі педагагічнай ідэалогіі.

У тэорыі школьнай адукацыі мы дасягнулі добрых вынікаў. Патэнцыяльна школа можа прапанаваць вучню сапраўды глыбокія, усебаковыя веды. У прыватнасці, у нас адзін з самых ёмістых, багатых па змесце базавы кампанент, удалая прапорцыя прыродазнаўча-навуковых і гуманітарных дысцыплін, дастаткова высокі ўзровень акадэмізму спалучаецца ў навучанні з прагматыкай. Разам з тым у апошняе дзесяцігоддзе ВНУ канстатуюць зніжэнне ўзроўню падрыхтаванасці выпускнікоў школы, настаўнікі засведчваюць сур'ёзнае адставанне значнай часткі вучняў ад патрабаванняў навучальных праграм, школьнікі спачатку хваравіта, а затым раўнадушна рэагуюць на сваю няздольнасць засвоіць веды па фізіцы, матэматыцы, замежнай мове. І ўсё гэта на фоне пастаяннага педагагічнага пошуку настаўніцкіх калектываў, укаранення перспектыўных навучальных тэхналогій, самаадданай працы настаўнікаў. Заканамерна паўстае пытанне: чаму так адбываецца? Калі нашы навучальныя праграмы лагічныя і глыбокія, калі нашы методыкі навучання сучасныя, калі нашы настаўнікі — прафесіяналы (а ўсё гэта прызнаныя факты!), то тады напрошваецца адказ: штосьці не спрацоўвае ў канцэпцыі пабудовы навучальнага працэсу.

І сапраўды, багатыя па змесце сучасныя навучальныя праграмы, якія ўключаюць у сябе прадстаўленыя ў сістэме адзінкі ведаў, настолькі спрасаваныя, што ў настаўніка практычна не застаецца часу на замацаванне навучальнага матэрыялу, на трэніроўку. Узнікае разрыў у засваенні вучнем ведаў па прычыне таго, што тэмп работы, прапануемы школай, вышэй індывідуальнага тэмпу работы вучня. Хто падлічыў, колькі здольных інжынераў, урачоў, вучоных мы губляем з-за таго, што ў школе ў 5 або 7 класе вучань не спраўляецца з навучальнай праграмай, пачынае адчуваць цяжкасці ў авалоданні ёю, што ён не можа або не здольны засвоіць навучальны курс, таму, што ён не паспявае яго засвоіць?

Або давайце задумаемся пра навучальны рабочы дзень нашых школьнікаў. У старэйшых класах яны праводзяць за партай штодзённа 6 — 7 гадзін, а колькі яны павінны прасядзець за пісьмовым сталом дома, каб падрыхтаваць усе належныя заданні? Калі скласці разам, атрымліваецца больш як 8 гадзін, г.зн. больш, чым рабочы дзень дарослага чалавека. Упэўнена, калі б мы правялі шырокамаштабны эксперымент, у ходзе якога прасачылі б залежнасць паміж станам псіхаэмацыянальнага і фізічнага здароўя нашых дзяцей і рэальнай працягласцю іх навучальнага працоўнага дня, то атрымалі б вельмі азадачлівыя вынікі.

Як абараніць школьніка ад немінучай перагрузкі, як дапамагчы яму заняць пазіцыю, калі б ён атрымліваў веды не шляхам іх завучвання, а шляхам адкрыцця іх для сябе асабіста і творчага асваення?

Адмовіцца ад дасягнутага мы не можам: выкінуць што-небудзь са школьных праграм не хочам — гэта знізіць узровень адукаванасці. А вось разгрузіць школьныя праграмы за кошт таго, каб знайсці дадатковы час на іх якаснае засваенне, рэальна. Менавіта такую магчымасць адкрывае 12-гадовае навучанне ў школе. Вось чаму стратэгіі рэфармавання сістэмы адукацыі трэба даць зялёнае святло.

У нас з'яўляецца шанц паставіць у цэнтр навучання інтарэсы і патрэбнасці дзіцяці, стварыць мадэль адукацыі, арыентаваную на асобу школьніка. Ці здолеем мы гэты шанц выкарыстаць — іншае пытанне. Стварэнне ж дыферэнцаванай варыятыўнай сярэдняй школы — найскладанейшая навуковая, метадычная і арганізацыйная задача. Абнадзейвае тое, што неабходныя навуковыя і кадравыя магчымасці для яе вырашэння ў краіне ёсць.

Аднак і секчы з-за пляча нельга. Можна назваць шмат бліскучых і смелых педагагічных ідэй, якія не былі рэалізаваны па прычыне таго, што не падмацоўваліся фінансава і тэхналагічна, не забяспечвалася гатоўнасць сістэмы адукацыі да іх ажыццяўлення. Толькі на падставе ўзважанага, прадуманага і ўсебаковага ўліку матэрыяльных, чалавечых, дыдактычных рэалій сённяшняга дня можна глядзець і заглядваць у дзень заўтрашні.

**Наталля БАРАНАВА,**
**намеснік рэктара Мінскага лінгвістычнага універсітэта.**

## 4 + 6 + 2 альбо 6 + 4?

У папярэдняй публікацыі ("НГ" за 9 лістапада), не жадаючы выглядаць "занадта белай варонай", я фармальна пагадзіўся з прапанаванай Мінадукацыі і навукі структурай 4 + 6 + 2 (пачатковая — базавая — поўная школа). Аднак ці можна, ці варта лічыць такую "формулу" пачатковай ісцінай у апошняй інстанцыі. Дарэчы, і варыянт для вясковай школы (6 + 4 + 2), які прапануецца Мінадукацыі і навукі, таксама наўрад ці беспамылковы.

Як бы там ні было, але пытанне аб структуры адукацыйна-выхаваўчай сістэмы надзвычай важнае, бо памылкі ў гэтым пытанні занадта дорага каштуюць і грамадству, і кожнаму грамадзяніну (бясплатнай адукацыі не бывае нават у тэорыі!).

Таму я лічу, што сёння, як ніколі раней, ніхто не павінен застацца ўбаку ад нацыянальнай педагагічнай рады на старонках "Настаўніцкай газеты" — каралеўскі дэвіз "Пасля мяне хоць патоп!" цалкам належыць мінуламу... І — як рэзюме: новая "рэдакцыя" школьнай рэформы павінна стаць, нарэшце, справай ўсяго беларускага народа, асабістай справай кожнага педагога-выхавацеля, а "Настаўніцкая газета" — яго "другой натурай" (да 25 лістапада засталося ўсяго два дні).

Такім чынам, я прапаную наступную структуру адукацыйнай сістэмы: 6 + 4, а для асобных выпадкаў (у сельскай мясцовасці) — 4 + 6 (дарэчы, такую структуру я прапаноўваў яшчэ ў 1986 годзе на старонках газеты "Правда", калі, уласна кажучы, пачалася мая сціплая "кар'ера" публіцыста).

Як вядома, савецкая школа ведала шмат "формул": 4 + 3 + 3, 4 + 4 + 3, 4 + 4 + 2, 3 + 5 + 2, 4 + 5 + 2, а іх галоўнай рысай была ўніверсальная стандартызацыя сістэмы адукацыі, яе цалкам тэхнабюракратычная арыентацыя. Зараз, здаецца, "лёд крануўся", але застаецца галоўны "рэлікт" старога — недастатковая, мякка кажучы, увага да пачатковай школы, неразуменне яе выключнай важнасці для сістэмы адукацыі і выхавання наогул. Між тым можна смела сцвярджаць: якой будзе пачатковая школа — такой будзе і адукацыйна-выхаваўчая сістэма наогул!

Думаецца, настаў час развітацца і з так званай "няпоўнай сярэдняй" школай, і з яе найноўшай мадыфікацыяй — так званай "базавай" школай, а ў канчатковым выніку перайсці да "жалезна-лагічнай" структуры без усялякіх "ступеняў": пачатковая школа — сярэдняя школа — вышэйшая школа.

Прапануемая (зразумела, у якасці аднаго з варыянтаў) структура адукацыйнай сістэмы выглядае так:

1) пачатковая школа з 6-гадовым тэрмінам навучання;

2) сярэдняя школа з 4-гадовым тэрмінам навучання;

3) сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы з 2—3-гадовым тэрмінам навучання (гімназіі, ліцэі, каледжы, тэхнікумы, вучылішчы, спецшколы);

4) вышэйшыя навучальныя ўстановы (універсітэты, акадэміі, інстытуты і г.д.).

Галоўнае звяно прапануемай адукацыйнай сістэмы — дашкольнае выхаванне і пачатковая школа ў іх цэласным (сістэмным) адзінстве. Само сабой зразумела, павінна адбыцца радыкальнае змяненне іх сутнасці: галоўнай задачай дашкольнага выхавання і пачатковай школы павінна стаць не засваенне ўсялякіх "асноў", а абсалютнае выяўленне творчых здольнасцяў чалавека, поўнае развіццё талентаў (бо талент ёсць не што іншае, як развітая прыродная здольнасць), тады як традыцыйныя задачы павінны стаць усяго толькі сродкам і перадумовай вырашэння галоўнай задачы.

Несумненна, радыкальна мяняюцца і адказы на агульнавядомыя пытанні: чаму вучыць, як вучыць і каму вучыць? Навучальны план пачатковай школы складаецца з шэрагу інтэгратыўных прадметаў: мовазнаўства; літаратуразнаўства; матэматыка; прыродазнаўства; грамадазнаўства; краіназнаўства; чалавеказнаўства (антрапалогія); эстэтыка; (галоўным чынам народная культура — фальклор); гімнастыка (у самым шырокім і глыбокім сэнсе гэтага слова — як сродак выхавання фізічнай культуры).

Разумовае, фізічнае, эстэтычнае і маральнае выхаванне становіцца "асновай асноў", уключаючы выхаванне: улады дзіцяці над яго ўласнай прыродай; цела; звычак і навыкаў; знешніх пачуццяў; увагі; памяці; разважнасці; волі; розуму; маральнасці; эстэтычных пачуццяў; рэлігійна-філасофскае выхаванне.

З 7-га класа сярэдняй школы — глыбокая дыферэнцыяцыя, элементы якой уводзяцца ўжо ў пачатковай школе. (Глядзіце: Л.Матылёнак. Адукацыя і выхаванне для XXI стагоддзя, пп. 3.4, 3.5. "Настаўніцкая газета" за 12 лютага 1994 года). Пасля 10 класа вучань атрымлівае "адначасова" пашпарт і "атэстат сталасці", а далей — прафесія (спецыяльнасць) выбірае яго (у адпаведнасці з мэтамі, інтарэсамі, схільнасцямі, прыроднымі здольнасцямі асобна ўзятага індывіда і грамадскімі патрэбамі).

Каб таму-сяму не здалося, што гэта — вяртанне да агульнавядомай дзесяцігодкі, адзначу, што размова ідзе аб прынцыпова новай мадэлі адукацыі і выхавання, бо радыкальна мяняюцца: пачатковая школа; сярэдняя школа, яе мэтанакіраванасць (форма і змест); уся структура агульнаадукацыйнай школы, а яшчэ шырэй — структура агульнаадукацыйна-выхаваўчай сістэмы наогул.

Нарэшце, у значнай меры вырашаецца праблема перагружанасці сярэдніх школ у гарадах "чалавечым матэрыялам", бо першыя класы вучацца ў дзіцячых садах (1), а ў будынках сярэдніх школ — 2 — 10 класы (замест прапаноўваемых Мінадукацыі і навукі 11-ці класаў; значыць, мінус два).

**Леанід МАТЫЛЁНАК.**

Мінск.

## Для творчасці рукі развязаны. Толькі трэба, каб настаўнік з глыбінкі атрымаў хвалю чыстага паветра, якое не дае задыхнуцца

Стратэгія рэфармавання адукацыйнай сістэмы, на мой погляд, гэта спроба прывесці існуючую сістэму адукацыі ў адпаведнасць з патрэбамі часу, з адукацыйнымі сістэмамі краін Захаду, а таксама на дзяржаўным узроўні вырашыць праблему занятасці маладых людзей карыснай справай.

Але ж сам тэрмін "стратэгія" для адукацыі не з'яўляецца новым. Вядома, што ў 1992 г. у ЗША была распрацавана нацыянальная праграма "Амерыка 2000: стратэгія развіцця адукацыі". На жаль, цяпер, калі настаўнік у нас пазбаўлены магчымасці выпісваць прафесійныя газеты і часопісы з блізкага замежжа, не ведаю, як праблемы адукацыі вырашаюць там.

Але хочацца выказаць некалькі ўласных думак наконт стратэгіі рэфармавання адукацыйнай сістэмы.

Прапанаваная стратэгіяй 10-гадовая базавая школа — вялікі плюс. З практыкі ведаю, што многія бацькі з боллю ў сэрцы адпраўляюць сваіх 15-гадовых дзяцей на вучобу ў іншыя гарады, другія спрабуюць пратрымаць іх яшчэ год у дзесятым класе, і толькі потым падлетак паступае ў ПТВ ці ССНУ.

Вельмі імпануе прадугледжаная стратэгіяй дыферэнцавана-варыятыўная падрыхтоўка.

Але ж стратэгія — не панацэя. Гэта толькі магістральны напрамак, па якім нам рухацца разам з вучнямі. Поспехі ў гэтай справе непасрэдным чынам будуць залежаць ад нас, настаўнікаў.

Нярэдка можна чуць, як з пэўнай доляй іроніі асобныя педагогі разважаюць аб прынятых раней мерах, якія не прывялі да поспехаў, аб вопыце педагогаў, які чамусьці не прыжыўся ў шырокай практыцы, аб методыках, якія пацярпелі крах і г.д.

Узнікае пытанне: а ці не такі ж лёс чакае і гэту стратэгію? Мая думка такая.

Стратэгія не рэгламентуе прыватныя пытанні адукацыі, таму для творчасці, як кажуць, рукі развязаны. Але не сакрэт, што ў школе заўсёды былі, ёсць і будуць настаўнікі, якім ніякая рэформа не патрэбна. Як іх толькі не называюць: ідэалісты, фанаты... На жаль, ёсць і такія, якіх ніякая стратэгія не зменіць. Яны, як няўмела складзеная печ: з дрывамі, падпалкай, але без цягі. У такога настаўніка ўсё ёсць: і ТСН, і нагляднасць, і апорны канспект, але ён застаецца механічным транслятарам ведаў, якія не закранаюць вучня, выклікаюць у яго сум і абыякавасць.

Чаму вопыт тых ці іншых педагогаў не прынёс чакаемых вынікаў іншым?

Таму што вопыт — гэта не толькі тое, што на паверхні, гэта асобы стан, у якім знаходзяцца вучні і настаўнік, яднаючая іх ідэя. Вось калі такая ідэя ёсць, будзе і поспех, і зусім не важна, як гэты вопыт потым назавуць.

Таму для поспеху справы разам з пытаннем падрыхтоўкі падручнікаў, дапаможнікаў, неабходных дакументаў патрэбна не чакаць, калі настаўнік прыйдзе ў школу, а ўжо сёння ставіць пытанне аб настаўніку, аб магчымасці не адзін раз за 5 гадоў пабываць на курсах удасканалення, а тым, у каго душа не завяла, хоць раз у год бываць на псіхолага-педагагічных семінарах, прымаць удзел у рабоце "круглага стала" ці канферэнцыі, ці стаць слухачамі аўтарскіх курсаў. Усё гэта будзе садзейнічаць таму, каб настаўнік з глыбінкі не зацыкліўся на праблеме неўпарадкаванага быту і цяжкасцях жыцця, не згубіў сябе, своечасова атрымаў хвалю чыстага паветра, якое не дае задыхнуцца.

Дарэчы, поспехі адукацыі будуць вызначацца не толькі намаганнямі настаўнікаў, але і адносінамі да школы ўсяго насельніцтва.

Можа наш рашучы прэзідэнт і яго памочнікі знойдуць рычагі, якія прывядуць да такіх зменаў у дзяржаве, каб адукаваны чалавек, дзе б ён ні працаваў, мог жыць дастойна, а інтэлект нацыі стаў найгалоўнейшай каштоўнасцю.

**Надзея КАЗЛОВА,**
**настаўніца матэматыкі сярэдняй школы № 4 Хойнікаў Гомельскай вобласці.**

Вам цяжка выкраіць з сямейнага бюджэту 4.680 рублёў на падпіску на сваю газету? Можна аформіць падпісную квітанцыю на квартал, а ў сакавіку зноў падпісацца на тры месяцы.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63867 (індэкс выдання)

«Настаўніцкая газета» Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63867 (індэкс выдання)

«Настаўніцкая газета»

| Кошт | падпіскі | руб. кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# НГ-іНФАРМ

ПАД ЗНАКАМ "АТАМ"

## ТАМ, ДЗЕ БОР САСНОВЫ

**На працягу дваццаці дзён вучні 1-й і 2-й школ Светлагорска разам з настаўнікамі (усяго 227 чалавек) праходзілі курс аздараўлення на турбазе Міністэрства абароны ў Ждановічах.**

Узбярэжжа адной з затокаў вадасховішча, саснова-яловыя бары навокал, чыстае, водарнае паветра, высокакаларыйнае і багатае вітамінамі харчаванне — усё гэта спрыяла таму, каб на бледных шчоках дзяцей зайграў румянец, каб яны акрэплі і фізічна, і маральна.

Калі я пачаў размову з настаўнікамі Светлагорскай школы №1 Інэсай Шафарэнка, Ірынай Ярошчанка і Вольгай Удальцовай, яны параілі звярнуцца з пытаннем, як ім жылося і адпачывалася, да самых меншых дзяцей — трэцякласнікаў Надзі Карась, Юлі Лаўды, Юлі Бялугі, Люды Тарасавай, Волі Кудасавай, Іры Сініцынай.

Дзеці загаварылі гуртам, наперагонкі:

— Жывём у пакоі па двое ці трое...

— Кормяць выдатна...

— Каша з рысу, з грэчкі, пюрэ бульбянае...

— Фасолевы суп...

— Марынка, ты пра вітаміны скажы!

— Ага — і вітаміны. Такое і дома не часта бывае. Яблыкі, апельсіны, вінаград, свежыя памідоры, салаты з капусты...

— І мяснога хапае. Каўбаскі, сардэлькі, супы — з тушонкаю...

А як з адпачынкам?

Дзеці наведалі гістарычныя і культурныя мясціны Мінска, пабывалі на экскурсіях у Хатыні, на Кургане Славы, у музеі Айчыннай вайны.

Вось што яшчэ расказалі Марына Куцень і Надзя Амельчанка:

— У цырку былі, на конегадоўчым заводзе, відэатэка спадабалася, канцэрты ладзілі, танцы. З амерыканцамі сустракаліся і сувеніры ад іх атрымалі. Не забываліся і пра вучобу: два класныя пакоі ў галоўным корпусе для нас абсталяваны.

Не менш таго задаволены і больш як 200 школьнікаў з Калінкавічаў, якія аздараўляліся ў суседнім прафілакторыі "Юнацтва".

Аляксандр АМЕЛЬЧАНКА.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

## ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ-ІНВАЛІДАЎ

**У адзін з дзён школьных канікулаў кіраўніцтва школы № 191 Мінска прымала незвычайных гасцей: прадстаўнікоў некалькіх грамадскіх і кіруючых арганізацый горада, вышэйшых навучальных устаноў і студэнтаў факультэта сацыяльнай педагогікі і практычнай псіхалогіі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.**

Студэнты-добраахвотнікі прапанавалі сваю бескарыслівую дапамогу ўсім дзецям-інвалідам, якія жывуць у чацвёртым мікрараёне Уручча, або вучацца ў мясцовай школе.

Дырэктар навучальнай установы Валерый Гладкоў ад імя адміністрацыі школы і кіраўніцтва жыллёва-камунальнай службы паабяцаў у хуткім часе даабсталяваць чатырохпакаёвае памяшканне і аддаць яго ў распараджэнне дзяцей-інвалідаў і студэнтаў універсітэта ў якасці Клуба цікавых сустрэч.

На сустрэчы агавораны і абмеркаваны арганізацыйныя нюансы, напрамкі прыкладання сіл студэнтаў-рэпетытараў, што будуць пастаянна займацца з дзецьмі-інвалідамі, якія вучацца дома.

Іх можна вучыць, зыходзячы з выбару выхаванцаў і са згоды іх бацькоў, фотасправе, музыцы, замежным мовам, маляванню, інфарматыцы і інш.

Але да заняткаў трэба рыхтавацца: пазнаёміцца рэпетытарам са сваімі выхаванцамі і іх бацькамі, сабраць і аформіць неабходныя дакументы. Распрацаваць распарадак навучальнага часу з улікам індывідуальных жаданняў дзяцей-інвалідаў, сямейных абставін, чаму будуць папярэднічаць візіты ў сем'і даверлівых адносін з бацькамі і г.д.

Удзельнікі сустрэчы выказалі шэраг слушных прапаноў у падтрымку гэтай акцыі і наогул па збліжэнні дзяржаўнага педагагічнага універсітэта са школай, якой цяжка дамагчыся адной, каб ніводнае дзіця-інвалід не пачувала сябе адрынутым ад свету агульначалавечых узаемін і паўнакроўнага жыцця.

Прадстаўнік аддзела па справах моладзі Першамайскага выканкама Галіна Міхайлаўна Грыб паабяцала садзеянне ў пераабсталяванні Клуба цікавых сустрэч і знаёмстваў, у арганізацыі гуртковай работы. Ёй выклікаліся пасабляць ад Рэспубліканскай асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам Алена Мікалаеўна Рачкоўская, арганізатар адукацыі Першамайскага раёна Таццяна Аляксандраўна Ражкоўская.

Дацэнт кафедры сацыяльнай педагогікі і прафесійнага майстэрства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта узяла на сябе арганізацыю метадалагічнай дапамогі на падрыхтоўчы перыяд, забеспячэнне "дамашняга" навучальна-выхаваўчага працэсу двухварыянтнымі навучальнымі планамі з улікам вучобы па профілях, распрацоўку праграм для індывідуальных заняткаў.

У мікрараёне жыве звыш 100 дзяцей-інвалідаў. На першай арганізацыйнай сустрэчы зацікаўленых бакоў прынята рашэнне зладзіць першую сустрэчу ўсіх гэтых дзяцей са сваімі рэпетытарамі-студэнтамі 3 снежня (Сусветны Дзень інвалідаў пад эгідай ЮНЕСКА) у школе №191.

Аляксандр АМЕЛЬЧАНКА.

БУДНІ ШКОЛЫ

# Старыя калёсы з новым шворнам

Ах, лістапад-лістапад! Кароткія і слотныя дні, доўгія халодныя ночы. І рэдка калі з-за аблачыны выгляне, усміхнецца сонца...

А сёння, дзіва, цэлы дзень — ні вятрынкі, і — сонца, сонца. Быццам і не перадзім'е. Пашанцавала. Затое во еду ў камандзіроўку, бадай, цэлы светлы дзень. Лагойск, Плешчаніцы, Бягомль, Докшыцы, Глыбокае, Шаркоўшчына, Новы Пагост... дзе яшчэ тыя Міёры? Край свету, ледзьве не Прыбалтыка. Чым паўночней на Віцебшчыну, тым бядней-шая прырода, нават воку няма на чым запыніцца: і лес не той, рэдкалессе, яшчэ й засмечанае, і адны палі. Відаць, тут слаўна папрацавалі меліяратары. Успамінаеш Коласа: "Чуць сінее лес далёкі, і сяло за тры валокі..." Адно ратуе — азёры. Віцебшчына — азёрны край.

Возера і ў Міёрах, доўгае, прыгожае — слаўнае. Гарадская вуліца праходзіць ледзьве не ля самой вады. На беразе — бальніца, далей —... могілкі і — школа. Такое вось незвычайнае суседства. Трэцяя школа. У Міёрах тры школы і чацвёртая будуецца. Для невялікага гарадка, які не так даўно быў яшчэ мястэчкам, ці не занадта? Аж не. Скажам, у трэцяй школе і зараз дзве змены. А што будзе, калі новая стратэгія рэфармавання адукацыйнай сістэмы, якую зараз горача абмяркоўваюць настаўнікі, стане рэальнасцю, і дзяцей давядзецца вазіць з далёкіх вёсачак у "перспектыўныя" гарады, дзе "створаны ўмовы" і школы "ўкамплектаваны высокаадукаванымі кадрамі", тады што — да другой змены дабавіцца трэцяя ці чацвёртая? Не ведаю, як яшчэ запрацуюць гэтыя самыя "ступені" школы. Жыццё пакажа. Ведаю толькі, што зараз няма бензіну нават на абсурдныя дробязі, што гаспадаркі па гэтай прычыне адмаўляюцца падвозіць дзяцей нават да бліжэйшай школы, што прастойваюць некалі створаныя навучальна-вытворчыя камбінаты, дзе ёсць цудоўнае абсталяванне (чым не база для той жа школы трэцяй ступені?). Ведаю таксама, што ў школах па-ранейшаму холадна (і трэцяя міёрская — не выключэнне). Так што марыць пра будучыню адукацыі, вядома, ухвальна. Але я, на жаль, рэаліст і таму сумняваюся, што распрацаваць стратэгію і ажыццявіць яе аднолькава лёгка. Зрэшты, хіба мы яшчэ не рэфармавалі адукацыйнае сістэмы?..

Стратэгія рэфармавання адукацыі зацікавіла настаўнікаў і ў Міёрах. Дырэктар трэцяй школы Вячаслаў Піліпавіч Цітовіч ахвотна падзяліўся са мною меркаваннямі. На яго думку, падыход да скарачэння рабочага дня для вучняў настаўнікі будуць толькі вітаць, бо гэта дасць магчымасць для больш грунтоўнай дыферэнцыяцыі працэсу навучання. Што да зместу адукацыі, то тут неабходна праводзіць інтэграванне прадметаў, больш збалансавана падыходзіць да школьнае праграмы. Сёння, скажам, вывучэнне фізікі ў дзевятым класе абапіраецца на матэматычныя законы, якія вывучаюцца ў ...дзесятым класе. Увогуле, падручнікі, якія мы маем зараз, недастаткова апрабаваны. Вучню вельмі цяжка самастойна працаваць з такім падручнікам. Шматлікія пытанні ёсць і ў працоўным навучанні. Сёння школа практычна не можа і думаць пра нейкае там прадпрымальніцтва, бо ўсе зробленыя грошы пераводзяцца на банкаўскі рахунак. І інструкцыя, якая ўсё яшчэ дзейнічае, не дазваляе іх зняць. Такім чынам, неўзабаве грошы з'ядае інфляцыя. А дырэктар школьным бюджэтам практычна не распараджаецца самастойна.

Між тым, перад цяжкасцямі не апускаюцца рукі ў міёрскіх настаўнікаў. Мабыць, такая гэта ўжо катэгорыя людзей, настаўнікі выпрацавалі своеасаблівы імунітэт да асабліва небяспечных грамадскіх захворванняў, і гэты імунітэт дазваляе ім выжыць у неспрыяльных умовах. Холад, нішчымніца, але ладзяць у трэцяй міёрскай школе настаўнікі вячоркі. Ды якія! Хай сабе не па кішэні настаўніку далікатэсы — ёсць яшчэ на Беларусі бульба. А з бульбы, як вядома, можна прыгатаваць сто страў. Крыха да крыхі — збярэцца торба. Нясуць на вячоркі настаўнікі — хто чым багаты. А багаты тут калектыў здаровым гумарам, таленавітымі рукамі, багаты няўрымслівай фантазіяй. Дзіва што ёсць чым пахваліцца намесніку дырэктара па выхаваўчай рабоце Валянціне Канстанцінаўне Борскай. Школа, між іншым, акрамя вячорак, славіцца цудоўным гістарычным музеем, адным з лепшых у вобласці. Пад кіраўніцтвам гісторыка-энтузіяста, апантанага сваёю справаю Вітольда Антонавіча Ермалёнка ў музеі праходзяць адметныя мерапрыемствы. Нядаўна ладзілі вечар, прысвечаны гадавіне паўстання Кастуся Каліноўскага, вялася тут цікавая гаворка пра жыццё і дзейнасць Вацлава Ластоўскага.

У школе, дарэчы, не спяшаюцца расставацца з лепшымі напрацоўкамі няхай сабе і таталітарнай сістэмы. Тут да гэтага часу дзейнічае рада дружыны, ёсць піянерская арганізацыя, а малодшыя школьнікі гуртуюцца ў суполцы "Віцьбічы", мэта якой — вывучэнне гісторыі роднага краю. Як бачым, усё тыя ж "старыя калёсы", хіба што з новым "шворнам", меней заідэалагізаваным. Паспяшыш — курэй насмяшыш, — кажуць у народзе. Разбурыць старое бывае працай простага. Пабудаваць жа на яго падмурку нешта іншае — патрэбны і матэрыялы, і інструменты, і час, і сродкі. Дык ці не лепей спяшацца, не спяшаючыся?.. Менавіта такога залатога правіла прытрымліваюцца ў трэцяй міёрскай школе. Гэта не азначае, што жыццё тут замерла ў чаканні перадзім'я. Упэўнена стукаецца ў школу беларусізацыя. Гэта не толькі беларускамоўныя пачатковыя класы, але і тыдзень беларускага фальклору, і этнаграфічныя конкурсы для старшакласнікаў, і дзейнасць школьнага клуба "Спадчына", і тыя ж самыя шыльды на кабінетах, што загаварылі па-беларуску...

Хто будуе, той не бядуе. На Міёршчыне, нягледзячы на палітычнае міжсезонне і эканамічную неразбярыху, шмат будуюць. Можна сказаць, мясцовая адукацыя ўся ў рыштаваннях. Дзіва што. Акрамя чацвёртай у райцэнтры, школы будуюць і на вёсцы: Дрыгуцкую, Забалоцкую базавыя, у Новым Пагосце ўзводзіцца дзіцячы садзік. А ўсяго за тры апошнія гады пабудавана ў раёне... сем школ, два дзіцячыя садкі, не кажучы пра рэканструкцыю, рамонт... Згадзіцеся, зусім не мала, калі ўлічыць, што кубаметр дошак цяпер каштуе астранамічныя грошы.

Міёры тут завуць Мёрамі. Лінгвістычна, можа, і правільна, ды толькі староннямy чалавеку вуха рэжа. Штосьці занадта змрочнае, мёртвае хаваецца за гэтым словам.

Але не, яшчэ не ўмёрлі Мёры, пакуль не ўмёрлі тут людская вера і спадзяванне.

Уладзімір МІХНО.

## ЦІ ВЫЖЫВЕ ПРЭСА?

**18-га лістапада міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў сустрэўся з галоўнымі рэдактарамі друкаваных выданняў, заснавальнікам якіх з'яўляецца міністэрства, — "Настаўніцкай газеты", часопісаў "Народная асвета", "Адукацыя і выхаванне", "Беларускі гістарычны часопіс", "Роднае слова", "Пралеска", "Пачатковая школа", "Фокус".**

В.Стражаў праінфармаваў журналістаў аб асноўных напрамках працы міністэрства на перспектыву. Гэта: рэфармаванне адукацыйнай сістэмы краіны, захаванне і далейшае развіццё вузаўскай і педагагічнай навукі і сацыяльная абарона адукацыі. Міністр падкрэсліў, што калі дзяржава не вырашыць гэты апошні, жыццёва важны на сёння аспект, цяжка будзе гаварыць пра паўнацэннае функцыянаванне адукацыйнай галіны ў цэлым.

Грунтоўная гаворка на сустрэчы ішла наконт праблемаў сродкаў масавай інфармацыі, якія таксама адчуваюць на сабе цяжар складанага становішча, што тычыцца перш за ўсё недахопу сродкаў фінансавання, беднай матэрыяльна-тэхнічнай базы рэдакцый, якія, у сілу сваёй тэматыкі не могуць займацца рэкламнай дзейнасцю і хаця б у нейкай меры папаўняць дэфіцыт бюджэтных сродкаў, што, у прыватнасці, уплывае і на падпісны кошт. Напрыклад, "Пралеска" і "Пачатковая школа" — самыя дарагія часопісы ў Рэспубліцы. Прагучала вартая ўвагі прапанова выплачваць настаўнікам дапамогу ў памеры мінімальнай заработнай платы для падпіскі на педагагічныя выданні.

Не засталіся ўбаку і пытанні творчых рэдакцыйных праблем, многія з якіх таксама "завязаны" на недахопе сродкаў. Куды варта, калі "Настаўніцкая газета" ці часопіс не ў стане плаціць дастойны ганарар сваім аўтарам.

Палітычная і эканамічная нестабільнасць не дазваляюць сёння ўпэўнена глядзець у заўтрашні дзень. Тым не менш, В.Стражаў паабяцаў, што праблемы педагагічнай прэсы будуць у полі яго пастаяннага зроку, паколькі "гэта не выданні Міністэрства адукацыі і навукі, а выданні ўсёй нашай педагагічнай грамадскасці". Захаваць іх — наш агульны клопат і абавязак.

Наш кар.



## Пошук вядзе "Віккру"

**Працягваецца пошук невядомых пахаванняў і ўстанаўленне імён загінуўшых абаронцаў Айчыны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У Чавускім раёне завяршыла работу абласная пошукавая краязнаўчая экспедыцыя "Памяць" навучэнцаў школ Магілёва.**

Экспедыцыя працавала з 14 па 20 верасня 1994 года ў в. Пуцькі, што на правым беразе р. Проня. Тут з верасня 1943 па чэрвень 1944 года праходзіла лінія фронту, на працягу амаль 9 месяцаў ішлі жорсткія баі. Ні адзін з бакоў працяглы час не мог атрымаць перавагу. І толькі ў чэрвені 1944 года, з пачаткам аперацыі "Баграціён", немцаў з вялікімі цяжкасцямі змаглі выбіць з добра ўмацаваных пазіцый і пагнаць далей на захад. Аб гэтым часе добра памятаюць мясцовыя жыхары, у цесным кантакце з якімі і працавалі ўдзельнікі экспедыцыі.

Перш чым выехаць на месца правядзення раскопак сябры пошукавага атрада "Віккру" вывучалі дакументы і літаратуру па гэтым раёне, разам з абласным і райваенкаматам правялі разведвальны выезд у Пуцькі, дзе сустрэліся з жыхарамі, правялі пробныя раскопы і канчаткова ўпэўніліся ў тым, што чавуская зямля і зараз яшчэ хавае многа таямніц з часоў вайны.

З дапамогай мясцовых жыхароў было знойдзена за час работ каля паловы ўсіх пахаванняў. На вялікі жаль, абмежаваныя сілы пошукавага атрада не далі магчымасці праверыць і абследаваць усе тыя месцы магчымых пахаванняў, на якія ўказвалі жыхары. Дзеці і дарослыя, разам з сапёрамі, з раніцы і да позняга вечара на працягу тыдня самааддана, не зважаючы на цяжкасці выходзілі на пошук. За гэты час былі знойдзены і падняты астанкі 21 савецкага воіна, якія загінулі ў час штурму нямецкай лініі абароны на р. Проня 23 чэрвеня 1944 года. 50 год ляжалі яны на месцы свайго апошняга бою, прысыпаныя зямлёй мясцовымі жыхарамі.

Былі знойдзены часткі амуніцыі, мноства асабістых рэчаў загінуўшых. Але самымі каштоўнымі знаходкамі для нас былі медалі "За адвагу" і "За баявыя заслугі" пад нумарамі 247573 і 549501, па якіх мы спадзяёмся ўстанавіць імёны загінуўшых. Паднятыя астанкі байцоў урачыста перазахаваны на мемарыяльным комплексе абаронцам Айчыны ў в. Бынава Чавускага раёна. Слушна на мітынгу прагучалі словы аб вялікай ролі школьнага пошукавага руху ў высакароднай справе аднаўлення імёнаў загінуўшых, вяртання іх з нябыцця.

У рабоце экспедыцыі прынялі ўдзел вучні школ № 2, 11, 29, 40 Магілёва. Арганізатарамі і фундатарамі гэтай справы выступілі аблвыканкам, аблваенкамат, абласныя Цэнтр дзіцячага турызму і краязнаўчы музей, Чавускія райвыканкам і ваенкамат.

Мікалай БАРЫСЕНКА,
загадчык краязнаўчага аддзела Магілёўскага абласнога Цэнтра дзіцячага турызму, кіраўнік экспедыцыі.

## ПАСЛУГІ ПАДЛЕТКАВАГА КЛУБА

**Летась даволі востра стаяла праблема: быць ці не быць падлеткаваму клубу Жлобінскага вытворчага футравага аб'яднання ("БелФА"). Але сродкі знайшліся, у новым навучальным годзе клуб адкрыў свае дзверы для дзяцей.**

— У розных гуртках і секцыях нашага клуба займаецца больш двухсот дзяцей, — расказвае дырэктар клуба Таццяна Палянкова. — Гэта прыкладна на трэць менш, чым у мінулым годзе. Сёння ў нашай музычнай студыі два класы (фартэпіяна, баян і гітара). Балючым для нас было пытанне: ці будуць гурткі платнымі? Нарэшце вырашана, што дзеці будуць займацца бясплатна. Выключэнне склалі толькі музычная студыя і секцыя па каратэ, але і тут — плата чыста сімвалічная.

Да слоў Таццяны Палянковай можна дадаць, што ў існаванні падлеткавага клуба зацікаўлены і дзіцячыя садкі горада. Для іх тут вырабляюцца прыгожыя цацкі са штучнага футра, аказваюцца на льготных умовах іншыя паслугі.

Мікалай ШУКАНАЎ,
супрацоўнік Жлобінскай райгазеты "Новы дзень".

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

**На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з дастаўчай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

# НГ-іНФАРМ

## Калядны фестываль

**Аргкамітэт Каляднага фестывалю юных мастакоў запрашае да ўдзелу ў незалежным конкурсе ўсе калектывы дзіцячых мастацкіх школ, студый выяўленчага мастацтва, мастацкіх вучылішчаў, агульнаадукацыйных, нядзельных школ, мастацкіх ліцэяў, іншых творчых устаноў і індывідуальных мастакоў ва ўзросце да 18 гадоў.**

Фундатары фестывалю — Беларуская Праваслаўная Царква, Цэнтр праваслаўнай асветы Найпадобнай Еўфрасініі Полацкай і Жодзінскі гарвыканкам. Ідэю фестывалю падтрымалі іншыя грамадскія, камерцыйныя і дзяржаўныя структуры. Аргкамітэт запрашае ўсіх грамадскіх, палітычных дзеячаў, кіраўнікоў эканомікі аказаць падтрымку першаму каляднаму фестывалю юных мастакоў.

Фестываль ставіць сваімі мэтамі засваенне дзіцячымі творчымі калектывамі спадчыны праваслаўнай духоўнай культуры беларускага народа, азнаямленне з гэтай спадчынай шырокіх колаў насельніцтва. Мы бачым сваёй мэтай прыцягнуць увагу грамадскасці да патрэб дзіцячых творчых калектываў, знайсці фундатараў для развіцця дзіцячай творчасці, падтрымаць матэрыяльна маладыя таленты. Важнай мэтай фестывалю з'яўляецца аб'яднанне намаганняў устаноў культуры і адукацыі, Праваслаўнай Царквы, грамадскіх фарміраванняў у справе духоўнага развіцця і маральнага выхавання моладзі Беларусі, а таксама адраджэнне атмасферы духоўнасці малых гарадоў нашай Бацькаўшчыны.

Парадак правядзення каляднага фестывалю юных мастакоў будзе наступны.

У лістападзе і снежні 1994 г. творчыя калектывы юных мастакоў павінны правесці падрыхтоўчую работу да Рэспубліканскай выставы і выбраць працы, якія будуць прадстаўляць калектыў на конкурсе. Конкурсныя працы юных мастакоў павінны адлюстроўваць праваслаўныя маральныя ідэалы і духоўныя традыцыі беларускага народа, але не абмяжоўвацца па сюжэце, тэматычна альбо жанрава.

Да 25 снежня ў Аргкамітэт РПФ падаюцца заяўкі на ўдзел у Рэспубліканскай выставе, дзе адзначаюцца колькасць работ з іх апісаннем (па-беларуску) па форме: імя аўтара, назва твора, год выканання, прозвішча настаўніка і нумар школы. Юныя мастакі выстаўляюць не больш за 2 працы аднаго аўтара і 10 прац ад аднаго творчага калектыву.

Большую колькасць работ магчыма выставіць на выставе, але па-за межамі конкурсу.

Да 30 снежня экспанаты павінны быць прывезены на выставу. Заяўкі на ўдзел і экспанаты накіроўваюць у Жодзінскую мастацкую школу па адрасе:

222160, г.Жодзіна, пр.Міру, 27-а, (8-275) тэл. 3-74-94 (дырэктар А.Сабалеўскі) (8-275) тэл. 3-51-81 (старшыня аргкамітэта)

Экспанаты павінны быць аформлены па стандартах міжнародных выстаў, суправаджацца этыкеткамі, надрукаванымі на беларускай мове з наступнай інфармацыяй: назва школы, імя аўтара, узрост аўтара, назва работы, год выканання, тэхніка і матэрыял, імя настаўніка.

10 студзеня 1995 г. адкрыццё выставы і ўзнагарода лаўрэатаў фестывалю. Лаўрэаты па запрашэнні аргкамітэта прыбываюць у Жодзінскую мастацкую школу.

Работы лаўрэатаў са згоды аўтараў пераходзяць у дабрачынны мастацкі фонд Цэнтра праваслаўнай асветы Найпадобнай Еўфрасінні Полацкай і фарміруюць перадзвіжніцкую мастацкую рэспубліканскую выставу.

Заклікаем разглядаць гэтае паведамленне, як запрашэнне для ўдзелу ў фестывалі, не чакаць дадатковых папер і актыўна рыхтавацца да выставы. Хто знойдзе магчымасць аказаць матэрыяльную дапамогу Першаму праваслаўнаму фестывалю юных мастакоў, ласкава просім карыстацца рахункам фестывалю:

Пр[illegible]орбанк у Мінску (код 749) рахунак №700290

Аргкамітэт РПФ.

## Не збяднелі на годнасць

ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА І РЭСПУБЛІКАНСКАГА ЗАВОЧНАГА КОНКУРСУ "ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ"

У Гродна ў снежні—верасні 1994 г. праводзіўся І рэспубліканскі завочны конкурс "Зямля пад белымі крыламі!" (Гісторыя песні Беларусі).

Гэты год ЮНЕСКО аб'явіла годам сям'і, таму галоўнай мэтай нашага конкурсу было ўмацаванне сямейных сувязяў паміж бацькамі і дзецьмі, захаванне сямейных традыцый, народнай музыкі, памяці аб продках. І па меркаванні арганізатараў конкурсу (Саюз прадпрымальнікаў Беларусі, Гродзенскі гарана, МП "Гародня-К"), гэтая мэта была дасягнута, нягледзячы на тое, што ўмовы конкурсу былі вельмі складаныя. Удзельнікі літаратурна-гістарычнага раздзела конкурсу павінны былі скласці гістарычную даведку і генеалагічнае дрэва-радавод сваёй сям'і, напісаць мастацкі твор (апавяданне, верш, баладу) пра найбольш цікавых прадстаўнікоў свайго роду.

У музычным раздзеле на прапанаваныя 5 тэкстаў беларускіх народных песень, мелодыі якіх страчаны, дзеці павінны былі напісаць свае варыянты мелодый. Узгадаем, што ўзрост удзельнікаў — 10... 16 гадоў.

У Гродна на заключны тур конкурсу было даслана 86 твораў удзельнікаў па двух раздзелах конкурсу і двух узроставых групах. А наогул у конкурсе "Зямля пад белымі крыламі" прыняло ўдзел каля 700 чалавек. І лепшыя творы былі накіраваны менавіта з тых школ Рэспублікі, дзе праводзіліся свае першыя туры па распрацаваным намі Палажэнні конкурсу. Асабліва журы спадабаліся гістарычныя творы вучняў з Маладзечанскага раёна (настаўнікі Раіса Пятроўна Паўлавец, Валерый Паўлавіч Карчагін, Раман Адамавіч Пясецкі, Людміла Іванаўна Строк) і песні вучняў школы № 170 Мінска (выкладчыца Людміла Карпаўна Шлег). Творы гродзенскіх дзяцей са школы № 14 (настаўніца Галіна Чаславаўна Шчаглова) і студэнтаў хіміка-тэхналагічнага тэхнікума (выкладчыца Ганна Уладзіміраўна Клябан) таксама адзначыла журы.

ПЕРШАЕ МЕСЦА: МАЛЬЦАВАЙ АЛЕНЕ (музыка), СОБАЛЕВАЙ ЮЛІІ (літаратурна-гістарычны раздзел), ЗАПРУДСКАЙ ЖАНЕ (літаратурна-гістарычны раздзел).

ДРУГОЕ МЕСЦА: КАНУННІКАВУ ГЛЕБУ (музыка), КУПРЭЙЧЫК АЛЕНЕ (літаратурна-гістарычны раздзел), ГРЫШЭЛЬ ІРЫНЕ (літаратурна-гістарычны раздзел).

Дзякуючы фундатарам каштоўныя прызы і падарункі (магнітолы, плэйеры, карціны, гадзіннікі, кнігі) атрымалі 19 удзельнікаў конкурсу. І мы спадзяёмся, што ўдзел у конкурсе "Зямля пад белымі крыламі" запомніцца дзецям і дапаможа ім у выбары будучай прафесіі.

Пад час правядзення конкурсу арганізатары сутыкнуліся з мноствам праблем, асноўнай з якіх была неабавязковасць кіраўнікоў такіх салідных банкаў, як "Беларусь" (дырэктар гродзенскага філіяла Я.Бандарчук, "Белбізнесбанк", Кастрычніцкае аддзяленне Гродна (дырэктар Т.Заразака), "Прамбудбанк", Гродна (нам. кіраўніка — Л. Карасевіч ). Здзіўляе тое, што гэтыя жанчыны-маці (маю на ўвазе кіраўнікоў вышэйпералічаных банкаў), са снежня 1993 г. неаднойчы абяцалі аказаць фінансавую падтрымку сямейнаму конкурсу "Зямля пад белымі крыламі", але так і не стрымалі сваё слова.

У час конкурсу было шмат сустрэч з добрымі людзьмі, з дапамогай якіх наш конкурс усё ж атрымаўся. Арганізатары вельмі ўдзячныя ўсім членам журы і асабліва Аляксею Пяткевічу, загадчыку кафедры беларускай культуры Гродзенскага універсітэта і Віктару Войціку (кампазітар, Мінск), намесніку старшыні Гродзенскага аблвыканкама Мікалаю Калацэю, Станіславу Ярашынскаму і Валянціне Гарнастаевай (Аграпрамбанк), Галіне Восіпавай, Расціславу Радзіловічу (СП "ОСТВУД"), Ганне Новік і Надзеі Кашко ("Дзіцячы фонд"), Ігару Карачанцаву і Адзе Дзянісік ("Пр[illegible]орбанк"), Алене Пілічавай (Галерэя "У майстра") і Віктару Сенчуку (СП "SEWEX").

Усе ўдзельнікі конкурсу ўдзячны вам, нашы шаноўныя журы і фундатары. Гэта дае ўпэўненасць у тым, што Гродна не збяднела на годных людзей.

Сяргей КАНУННІКАЎ.

# НЕМАЎЛЯ, ЯКОЕ ХОЧА МНОГА ПАЗНАЦЬ

## З СІНТЭЗУ БЕЛАРУСКАГА ДУХУ І ДУХУ ЛІЦЭЙСКАГА МОЖА ПАЎСТАЦЬ НАШ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЛІЦЭЙ

**Ліцэй пры Белдзяржуніверсітэце працуе з 1989 года. Як падае даведнік "Выбар за вамі", гэта першая ў нашай краіне навучальная ўстанова новага тыпу з двухгадовым тэрмінам навучання.**

**Зыходзячы з асабістых назіранняў, магу сказаць, што ўжо першыя выпускнікі ліцэя пры БДУ (прынамсі, многія з іх), прыйшоўшы ў студэнцкія аўдыторыі сталічных ВНУ, засведчылі сябе свядомымі патрыётамі Беларусі. Відавочна, што ліцэй, у якім яны вучыліся два гады, паспрыяў нацыянальнаму самастанаўленню сваіх выхаванцаў. Але ў якой ступені? Гэта спаміж іншых пытанняў мы і паспрабуем высветліць у нашай размове з дырэктарам ліцэя Генадзем Уладзіміравічам Пальчыкам.**

Маё знаёмства з ліцэем пачалося з бібліятэкі, з кніжнага царства, каралеўства, княства, пасад. Мне так думаецца: калі на кніжным дзядзінцы парадак і чын, то і ў самой школе (ліцэі, гімназіі, ВНУ, ПТВ) справы вучобы і выхавання павінны быць не горшымі. На жаль, на вялікі жаль, знаёмства з ліцэйскай бібліятэкай засмуціла мяне вельмі. Я знайшоў у ёй падшыўкі газет "Правда", "Советская Белоруссия", але не пабачыў "Нашай Нівы", "Свабоды", "Нашага слова". І гэта ў беларускім ліцэі, фактычна элітарнай, элітнай у добрым сэнсе слова навучальнай установе!

Але яшчэ горш засмуціў мяне адказ бібліятэкаркі Наталлі Корбут, якая раней працавала ў інстытуце замежных моваў, скончыла філалагічны факультэт БДУ. "Мы, — кажа шаноўная Наталля Аляксандраўна, — выпісваем тыя выданні, якія чытаюць ліцэісты". Такая цяпер метода пайшла, выходзіць? Навучэнцы цяпер "музыку заказваюць"?

На шчасце, гэта не зусім так. І "Нашу Ніву", і "Свабоду, і іншыя сапраўды беларускія выданні ліцэісты чытаюць. Толькі вось ліцэй у дадзеным канкрэтным выпадку не можа сказаць, што гэта менавіта ён заахвоціў сваіх выхаванцаў да чытання нацыянальных перыёдыкаў. Тут ліцэй застаецца наўзбоч, тут ён небяспечна аддаляецца да тых, каго мусіць і вучыць, і выхоўваць, і накіроўваць, і падказваць. Зрэшты, паслухаем цяпер дырэктара.

— Мы не маем праблем не толькі з паспяховасцю нашых выпускнікоў, але і з, так бы мовіць, чалавечнасцю, адносінамі да іншых. Я маю на ўвазе акрамя гуманітарыяў таксама і фізікаў, матэматыкаў.

Трэба адзначыць, што наш ліцэй — гэта не падрыхтоўчыя курсы, не рэпетытарства за кошт дзяржавы. Гэта ўніверсалія, прастора полісемантычная. Пра тое сведчыць узровень ліцэістаў. Кожны год на Рэспубліканскіх алімпіядах і конкурсах мы бяром свае прызы, дыпломы, пахвальныя водгукі. Сёлета нашы выхаванцы годна рэпрэзентавалі Беларусь на міжнародных алімпіядах па інфарматыцы і матэматыцы. Акрамя таго, мы заахвочваем ліцэістаў да навукова-даследчыцкай работы, пры тым як навучэнцаў прыродазнаўчых спецыялізацыяў, так і гуманітарных І тут вынікі добрыя. Нашы ліцэісты ўдзельнічалі ў інтэлектуальным марафоне ў Калінінградзе, у дзвюх міжнародных канферэнцыях у Будапешце. Маем добрыя адносіны з адным шведскім універсітэтам, пры якім ёсць гэткі ж ліцэй, як і наш. Наладзілі абмен ліцэістамі і выкладчыкамі. На жаль, пра нас, пра Беларусь у шырокім свеце амаль нічога не ведаюць. Ведаюць Украіну, Каўказ, Прыбалтыку. Нас — яшчэ не. Таму нашы ліцэісты акрамя ўсяго іншага выступаюць за мяжой і як рэпрэзентанты новай для Еўропы еўрапейскай жа краіны — Беларусі. У мінулым годзе шэсць нашых ліцэістаў ездзілі на стажыроўку ў прэстыжную школу Англіі. За кошт фундатараў з англійскага боку. Гэта гуманітарная школа пад Лонданам. Вялікую падзяку мушу выказаць вядомаму ўжо фонду Сораса, які фінансуе нашы выезды за мяжу. Дарэчы, Англія стала скарачаць абмен з краінамі былога СССР (фінансаванне ідзе за яе кошт), але не з намі. Гэта яскравы факт іхных да нас адносінаў. Больш таго, мы атрымоўваем пісьмы, у якіх тыя ж ангельцы пішуць, што яны зачараваны нашымі дзецьмі, іх камунікабельнасцю. Яны зачараваны звестунамі новай Беларусі.

КАРЭСПАНДЭНТ: — У гэтым навучальным годзе ліцэю пры БДУ спаўняецца пяць гадоў. Вы можаце сказаць, што ліцэй дасягнуў пэўных поспехаў?

ДЫРЭКТАР: — За чатыры гады навучання мы выпусцілі каля 800 чалавек. І цяпер, калі ў нашым ліцэі праходзіць якая-небудзь вечарына, мы не можам змясціць усіх гасцей — нашых былых выпускнікоў. Вось у гэтым, як мне здаецца, і заключаецца асноўны вынік работы выкладчыкаў, іх поспех, а значыць, і поспех ліцэя. Нашы першыя выпускнікі ўжо на чацвёртым курсе ўніверсітэта. Гэта добрыя студэнты. Многія з іх жадаюць ісці да нас на практыку. І тут дарэчы будзе ўзгадаць ліцэй, у якім вучыўся А.Пушкін, расейскі паэт. Чаму царскасельскі праіснаваў так мала? Ды таму, што ягоныя выпускнікі не вярнуліся. А я ўпэўнены, што нашы вернуцца: хто выкладчыкам, а хто, мажліва, і ў якасці фундатара.

Зараджаюцца ў нас і новыя традыцыі — утвараюцца навучэнскія дынастыі, калі за старэйшымі братам ці сястрой у ліцэй ідуць малодшыя, меншыя браты альбо сёстры.

За пяць гадоў мы шышак набілі, бо былі першымі. Затое сёння маем канкрэтны метадычны вопыт, вопыт арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу, пазакласнай работы. У нас, калі так можна сказаць, два тыпы выкладчыкаў: штатныя і тыя, што прыходзяць з універсітэта чытаць пэўныя курсы. Факультэты даюць нам найлепшых выкладчыкаў, якія не проста "дачытваюць" свае гадзіны, а жывуць з ліцэістамі адным жыццём, удзельнічаюць ва ўсіх нашых мерапрыемствах, што і стварае своеасаблівы ліцэйскі дух.

Дзевяць выкладчыкаў з'яўляюцца аспірантамі, пішуць дысертацыйныя работы, удзельнічаюць у навуковых канферэнцыях. Мы пастаянна кантактуем на Рэспубліканскім і міжнародным узроўнях па праблемах работы з таленавітай моладдзю. А з ёю сёння не так і проста. Ведаеце, калі 10—15 чалавек прэтэндуюць на адно месца на гуманітарны профіль, і 7-8 на прыродазнаўчы, то адабраць даволі цяжка. Зрэшты, гэта пытанне методыкі адбору, граматнай пабудовы экзаменаў.

КАРЭСПАНДЭНТ: — Скажыце, а праблема лідэрства сярод ліцэістаў існуе?

ДЫРЭКТАР: — Гэта момант вельмі далікатны. Калі ў школе клас вылучае зазвычай аднаго-двух лідэраў, тых, хто вядзе за сабою астатніх, арганізуе клас, то ў ліцэйскай навучальнай групе з 20 чалавек лідэрам з'яўляецца кожны. Мы, здаецца, знайшлі не горшы варыянт — стварылі псіхалагічную службу. Пасля здачы ўступных экзаменаў мы праводзім псіхадыягностыку па характаралагічных асаблівасцях будучых ліцэістаў. Ім прапануецца навукова абгрунтаваная анкета, з якой бачна, што, напрыклад, фізікі больш напорыстыя, а матэматыкі — ціхія. Таму мы стараемся фарміраваць класы так, каб не атрымалася крэнаў у той ці іншы бок.

Праз месяц-паўтара пасля пачатку заняткаў (сярэдзіна, канец кастрычніка) у нас праводзіцца іншая дыягностыка — сацыяметрыя. Ліцэісты выбіраюць адзін аднаго. Такая дыягностыка многа часу не займае, а вынік дае класічны. Хто ў цэнтры ўвагі, а хто ізгой, — відаць з назіранняў выкладчыкаў, класных кіраўнікоў, з размоваў з бацькамі. Зыходзячы з назіранняў, можна карэктаваць сітуацыю. Я ўпэўнены, што ў нашым ліцэі кожны ліцэіст здольны быць лідэрам. Ды мы гэта і бачым. Толькі ў адным класе вы знойдзеце і пераможцу ў матэматычнай алімпіядзе, і таго, хто заўсёды першы на сцэне, і стабільных лідэраў у зборных камандах класа па валейболе, футболе... Карацей кажучы, кожны знаходзіць спосаб, каб праявіць сябе. Паміж лідзіруючымі групамі няма супрацьстаяння. За ўдзельнікаў таго ці іншага спаборніцтва перажываюць усе. Задача педкалектыву — даць магчымасць вызначыцца кожнаму навучэнцу, урэшце рэшт — дапамагчы.

Нашы педагогі складаюць калектыў людзей, якія "захварэлі" ідэяй ліцэя. І дай бог, каб гэта "хвароба" працягвалася.

КАРЭСПАНДЭНТ: — Скажыце, як пачувае сябе ліцэй ва ўмовах усталявання "прэзідэнцкай вертыкалі"?

ДЫРЭКТАР: — Сістэма адукацыі не павінна залежаць ад зменаў у палітычным кіраўніцтве краіны. Нельга нявырашаныя на палітычным узроўні праблемы пераносіць на школу. Такі прадукт, як інтэлект, быў і застаецца на Беларусі самым важнейшым. А мы што робім з нашым старэгічным запасам? Не трэба нам кратаць нашу сістэму адукацыі. Давайце лепш захаваем тое, што ёсць, што маем. Сёння вядучыя спецыялісты той жа Еўропы глядзяць на Усход, на нашу адукацыйную сістэму. А паглядзіце, што цяпер робіцца: разумная моладзь ідзе ў бізнес, едзе за мяжу на стажыроўкі, каб зарабіць і вярнуцца (гэта ў лепшым выпадку). Пакуль ёсць прадукт — ёсць цана. Знішчым прадукт, ня будзе на што і цану даваць.

Ліцэй — гэта элітарная ўстанова для інтэлектуальнай моладзі. І не трэба гэтай элітарнасці баяцца. Калі сын якога-небудзь доктара навук паступае да нас і выдатна вучыцца, то і дзякуй богу! Не трэба ў гэтым бачыць нешта заганнае. Трэба глядзець на вынік. Ухваляючы традыцыю рабочых дынастыяў, чаму некаторыя людзі адмаўляюць дзецям інтэлігенцыі ў праве выбіраць прафесію сваіх бацькоў і дзядоў?

Наконт алімпіяднага руху. Мы прапаноўвалі раздзяліць яго паводле інтэлектуальнага ўзроўню ўдзельнікаў: напрыклад, асобна для ліцэістаў, для навучэнцаў спецшколаў, для ПТВ свае алімпіяды. Але не, нельга, кажуць, дыскрымінацыя. Дык, можа, яна і праяўляецца якраз у тым, што навучэнца ПТВ, які мае, па матэматыцы дзве-тры гадзіны ў тыдзень, прымушаюць сілай, па спісе спаборнічаць з нашым ліцэістам з яго сямю-васьмю гадзінамі падрыхтоўкі. У выніку навучэнец ПТВ атрымоўвае нуль балаў. Гэта ж проста здзек з яго!

КАРЭСПАНДЭНТ: — Вы ўзгадалі пра своеасаблівы ліцэйскі дух, які прысутнічае ў вашай навучальнай установе. І гэта цудоўна. Але ці сябруе ён з духам беларускім?

ДЫРЭКТАР: — У плане адраджэння Беларушчыны (Беларускага Духу) мы знаходзімся бліжэй да ВНУ, чым да школы. Калі ў апошняй навучанне па-беларуску пачынаецца з першага класа і ідзе паэтапна, то ў нас толькі са старэйшых класаў. На гуманітарным аддзяленні выкладанне вядзецца па-беларуску, на прыродазнаўчым — па выбары. Хацеў бы падкрэсліць: дэрусіфікацыя павінна праходзіць паэтапна, разумна. Не павінна быць крайнасцяў. Праз існаванне нашай гуманітарнай плыні беларуская культура і мова абсалютна ненавязліва ўваходзяць у жыццё нашага ліцэя. Калі дзяўчаты з гуманітарнага карыстаюцца беларускай мовай, то і хлопцам з прыродазнаўчага адставаць не выпадае. Дарэчы, ёсць выпадкі, калі з прыродазнаўчага аддзялення ліцэісты пераходзяць на гуманітарнае. Праўда, адваротны пераход здараецца радзей.

КАРЭСПАНДЭНТ: — Калі ласка, раскажыце крыху пра сябе.

ДЫРЭКТАР: — Скончыў Наваградскую сярэднюю школу, фізічны факультэт БДУ. Працаваў інжынерам, старшым інжынерам, намеснікам дырэктара нашага ліцэя. Тэма дысертацыі была не метадычная, а навуковая, з галіны фізікі паўправаднікоў. Цяпер з задавальненнем працую дырэктарам, з цудоўным настроем. Я, відаць, шчаслівы чалавек. Разам з тым дырэктарства патрабуе многа энергіі, трэба выкладвацца. Бальшыня нашых работнікаў — фанаты сваёй справы. На жаль, часта нашыя намаганні нагадваюць змаганне з ветракамі...

Ліцэй — гэта як немаўля, якое просіць есці. Тут нельга траціць час, бо потым у дзіцяці могуць развіцца дэфекты. Дзякуй богу, наш гадунец, якому ўжо пяць гадоў веку, на сёння здаровы, крэпенькі, і так многа хоча пазнаць.

КАРЭСПАНДЭНТ: — Дык што, няма праблем?

Дырэктар: — Каб жа так! Ёсць, і некаторыя з іх узнікаюць пасля чарговай змены ўлады. Спынілася фінансаванне рабочага праекта новага будынка для ліцэя. Мінгарвыканкам з нашым міністэрствам не могуць вырашыць, хто павінен будаваць (і за якія грошы), а хто — займацца праектам. Калі гэта пытанне будзе вырашана, то ў наступным годзе можна пачынаць будоўлю — пляцоўка ў цэнтры горада выдзелена.

Будынак, у якім сёння размяшчаецца ліцэй, узведзены ў 1937 годзе. У часы нямецкай акупацыі ў ім была стайня. Потым — школа №15, якую, аднак, перанеслі, бо старыя памяшканні не адпавядаюць нарматывам сярэдняй школы. Нейкі час тут месцілася адміністрацыя спартыўных школаў сталіцы.

Мы і тэрыторыі сваёй не маем. Быў садзік побач, але на яго месцы развялі будоўлю жылога дома. дому.

Вось такія справы.

Цяперашні будынак — наша гісторыя. А ліцэй — гэта будучыня. Наша, беларуская.

Не магу не сказаць добрага слова пра кіраўніцтва БДУ. Яно разумее нашу сітуацыю. Для іншагародніх ліцэістаў выдзелены месцы ў аспiранцкім інтэрнаце, што на вуліцы Крапоткіна. За арэнду мы не плацім.

КАРЭСПАНДЭНТ: — А што кажа статыстыка пра, так бы мовіць, класава-сацыяльнае паходжанне ліцэістаў?

ДЫРЭКТАР: — Амаль што палавіна іх — з вёскі. Пераважная бальшыня — і гэта ўжо тэндэнцыя — дзеці служачых і творчай інтэлігенцыі. Пад служачымі трэба разумець бацькоў, якія працуюць на заводах "Інтэграл", прыборабудаўнічым (з-д імя Леніна), у розных СКТБ і самі прайшлі школу РТІ, БПІ, БДУ...

Што ж, на карэспандэнцкія пытанні адказ атрыманы. Наперадзе — новыя і новыя пытанні, якія паспяшаецца паставіць перад дырэктарам і ягоным калектывам як уласна ліцэйскае жыццё, так і жыццё палітычнае, жыццё соцыму.

Упэўнены, што ў недалёкай будучыні ліцэю, каб займець статус (фактычны, заўважым, а не намінальны) сапраўды першай беларускай установы новага тыпу, трэба будзе ажыццявіць і такую, напрыклад, меру, як увядзенне адзінага беларускамоўнага рэжыму на сваёй тэрыторыі. Гэта не так і цяжка зрабіць, трэба толькі захацець. Трэба толькі падаць прыклад. І калі ў прыёмнай і кабінеце дырэктара, у настаўніцкім пакоі загучыць наша, а не замежная мова, тады з сінтэзу беларускага духу і духу ліцэйскага зможа паўстаць наш нацыянальны ліцэй. Трэба спадзявацца, што так яно і будзе. У адваротным выпадку шырокі свет можа і не даведацца, што ёсць у Еўропе цудоўная такая краіна — Беларусь.

Дык падтрымаем жа пароль надзеі:
— Жыве Ліцэй!
— Жыве Беларусь!

Славамір АДАМОВІЧ.

## ПЕДАГАГІЧНАЯ МАЙСТЭРНЯ

# Лісіца—хітрыца, зайка—зазнайка і... атмасфера дабрыні

**У кнізе Ш.А.Аманашвілі "Як жывеце, дзеці?" ёсць цудоўныя словы: "Выхаванне сумленных і высакародных пачуццяў у сэрцах дзяцей больш карысна і даражэй, чым узбагачэнне рознымі ведамі". Наўрад ці знойдзецца настаўнік, які будзе аспрэчваць гэтае меркаванне.**

**Таму з першых дзён заняткаў стараюся стварыць атмасферу добразычлівасці, клопату і падтрымкі. Здаровы псіхалагічны клімат, дабрыня, спагада, узаемаразуменне з'яўляюцца гарантам свядомых паводзін, што і дазволіла мне лепш вывучыць густы, інтарэсы, моўныя магчымасці, некаторыя індывідуальныя рысы характару кожнага майго вучня.**

У нашых класах ніколі не гучыць здзеклівы смех над сябрам, стараюся не дапускаць раздражняльнага тону сама, папярэджваю пра гэта вучняў і іх бацькоў. Ствараю і падтрымліваю атмасферу дабрыні, даверу, раскаванасці, цеплыні. Дзеці павінны заўсёды адчуваць, што іх любяць, што яны патрэбны, і тады ў іх не ўзнікае жаданне бегчы са школы ад настаўніка, ад сваіх сяброў.

Зыходзячы з вопыту сваёй работы, лічу, што немагчыма глыбока пазнаць асобу вучня і тым самым стварыць дружны калектыў класа без супрацоўніцтва настаўніка і вучняў, настаўніка і бацькоў, бацькоў і дзяцей, дзяцей між сабою. Усе гэтыя звенні педагогікі супрацоўніцтва і знайшлі сваё адлюстраванне на занятках па інтарэсах. Я стараюся даць магчымасць кожнаму дзіцяці яшчэ ў першым класе расказаць пра сябе і свае любімыя заняткі. У маленькіх дзяцей гэтыя заняткі мяняюцца адно за адным, і таму такія хвілінкі, як "Раскажы мне пра сябе" праводжу вельмі часта. Дзеці расказваюць аб тым, чым яны любяць займацца ў вольны час — маляваць, ляпіць, вышываць, выпільваць, чытаць і г.д. Далей ідзе знаёмства з гурткамі ў школе і ў тых пазашкольных установах, якія ёсць у горадзе. І ва ўсіх гуртках адразу ім хацелася б удзельнічаць. Так і было на самай справе. Уважліва назірала, пераконвала бацькоў, каб не спяшаліся перашкодзіць свайму дзіцяці выбраць любімую справу. І сапраўды, многім хутка надакучыла бегаць з аднаго гуртка ў другі. Надышоў якраз той час, калі трэба было выкарыстаць заняткі па інтарэсах у поўнай меры непасрэдна ў класе, але з прыцягненнем да іх правядзення бацькоў, кіраўнікоў гурткоў пазашкольных устаноў.

Яшчэ змалку, з дзіцячага сада, многія мараць аб артыстычнай дзейнасці, гуляюць у розныя ролевыя гульні. І вось, улічваючы пажаданні дзетак, у класе створаны калектыў, які пазней перарос у тэатральную студыю.

Трэці год займаюцца дзеці ў гэтай студыі, якую ўзначальвае здольны, вопытны кіраўнік Вольга Мікалаеўна Маханенка, маці адной вучаніцы з класа. Яна змагла захапіць дзяцей тэатральным мастацтвам, умела выкарыстоўвае ўменні і навыкі вучняў.

Дзеці пачалі больш сур'ёзна адносіцца да сваіх абавязкаў. У працэсе работы над ролямі развіваецца іх эстэтычны густ, у юных артыстаў пашыраецца кругагляд у сферы мастацтва, фарміруюцца навыкі культурных паводзін, мацнеюць сяброўскія ўзаеміны.

Вядома, на першых занятках дзеці павольна ўцягваліся ў работу студыі. Яны саромеліся, адчувалі сябе ніякавата, хаця цікавасць да новага занятку не знікала. А яшчэ ім хацелася хутчэй выйсці на сцэну і паказаць сябе сапраўднымі артыстамі. Дзякуючы педагагічна-майстэрскім намаганням Вольгі Мікалаеўны дзеці паступова ўваходзілі ў свет тэатральнага мастацтва, знаёміліся з яго таямніцамі. Яны ўжо маюць пэўную агульнаакцёрскую падрыхтоўку па такіх напрамках, як сцэнічны рух, сцэнічнае моваакцёрскае майстэрства. Ужо на першым годзе навучання студыйцы паставілі інсцэніроўкі па беларускім фальклоры "Лісіца-хітрыца" і "Дзед і жораў". У гэтым годзе праграма студыйцаў больш складаная і адказная. Практычна ўжо завершана работа над пастаноўкай першага ў жыцці спектакля па аднаактовай п'есе С.Міхалкова "Зайка-зазнайка" у перакладзе на беларускую мову. Нашы самадзейныя артысты неаднаразова выступалі на школьных святах, у дзіцячых садах, перад бацькамі і працаўнікамі прадпрыемстваў горада.

Вопыт работы ў беларускамоўных класах цалкам заснаваны на мэце нацыянальнага Адраджэння. Гэтаму пытанню прысвячаліся мае выступленні ў друку і на педчытаннях. Ніводзін урок, ні адно мерапрыемства не праводжу без выкарыстання краязнаўчага матэрыялу. Праз любоў да роднага краю, родных мясцін стараюся дакрануцца да струн дзіцячай душы.

З вялікай удзячнасцю і я, і мае калегі ўспрынялі прапановы па правядзенні заняткаў інтэграванага курса "Беларусазнаўства". Гэта значна аблегчыла работу па падборы тэм і матэрыялу па краязнаўстве, фалькларыстыцы, гісторыі Беларусі і інш.

Любоў да роднага краю... Як важна, каб гэта пачуццё жыло ў кожнага з нас, каб яшчэ ў раннім дзяцінстве знайшоўся чалавек, які раскрыў бы звычайную прыгажосць родных мясцін, выклікаў любоў да роднай зямлі, пяшчотную прыхільнасць да Бацькаўшчыны.

Так з'явілася жаданне стварыць у 3-м класе краязнаўчы гурток. Згадзіўся арганізаваць яго работу Ілья Юльевіч Януш, навуковы супрацоўнік Лепельскага краязнаўчага музея, якога дзеці ўжо добра ведалі па шматлікіх экскурсіях і мерапрыемствах, што праводзіліся ў музеі. Сумесна абмеркавалі план заняткаў, патрабаванні да іх. Гуртkoўцы вывучаюць прыроду роднага краю, збіраюць фальклор Лепельшчыны, знаёмяцца з нацыянальнымі традыцыямі, мастацтвам. На экскурсіях бываюць на прадпрыемствах горада.

Большасць заняткаў праводзіцца ў парках, за горадам, а асобныя праходзяць непасрэдна ў краязнаўчым музеі. Так, гуртkoўцы запрасілі ўсіх вучняў 2 "А" і 3 "А" класаў на мерапрыемства, якое было прысвечана 140-м угодкам набыцця нашым горадам уласнага герба.

Заняткі па краязнаўстве прываблiваюць сваёй цікавасцю. І.Ю.Януш здолеў заахвоціць нават такіх хлопчыкаў, якіх, здавалася, нічога не цікавіла. Тут яны набываюць турысцка-краязнаўчыя навыкі: увосень дрэўцы саджаюць, вучацца ставіць палатку, укладваць рукзак. І толькі калі надвор'е неспрыяльнае, заняткі праходзяць у памяшканні, дзе праводзяцца розныя віктарыны, гульні-эстафеты з компасам і мячом, шахматна-шашачныя турніры, даюцца звесткі па гісторыі роднага краю.

Краязнаўчай работай захапляюцца ў большай ступені хлопчыкі, а дзяўчынкі знайшлі сябе ў фальклорным калектыве. Спачатку дзяцей не прываблівалі народныя песні, асаблівасці іх гучання. Хоць і на ўроках чытання, і на занятках па беларусазнаўстве пастаянна знаёміла іх з народнай творчасцю, мясцовым фальклорам. Спяваць самім жаданне прыйшло не адразу. Разам з кіраўніком фальклорнага калектыву падбіралі рэпертуар, каб ён адпавядаў узроставым магчымасцям, быў музычным і цікавым. І бацькі не спадзяваліся, што іх дзеткі заспяваюць меладычныя народныя песні. Першае выступленне нашых фалькларыстаў было прыемнай нечаканасцю. Гэта надало ўпэўненасці ў важнай і такой патрэбнай справе і кіраўніку калектыву Людміле Фёдараўне Шыпулі, і дзецям. А ў другакласнікаў цікава праходзяць заняткі па рытміцы, якія ўключаюць навучанне танцавальным рухам, музычным гульням. Такім чынам, актыўная музычная і танцавальная дзейнасць развівае мастацка-творчыя здольнасці дзяцей, дапамагае згуртаванню калектыву.

З захапленнем дзеці займаюцца ў гуртках па інтарэсах і пры гэтым міжволі заражаюць сваёй актыўнасцю і іншых у сваім і суседніх класах. Яны становяцца першымі памочнікамі настаўніка ў правядзенні агульнакласных мерапрыемстваў, удзельнічаюць у агульнашкольных. І, як правіла, усе святы ў класе рыхтуюцца і праводзяцца разам з бацькамі, адной сям'ёю. Неяк на адным з бацькоўскіх сходаў хтосьці выказаў пажаданне, каб такія сумесныя сустрэчы былі больш частымі. Выказваліся розныя прапановы: і клуб стварыць, і дзень адкрытых дзвярэй правесці. Але сышліся на больш прывабліваў форме: гасцёўня "Майстрыха". Аб'яднаць усіх дзетак, бацькоў згадзілася Валянціна Уладзіміраўна Ганчар, настаўніца мастацтва. Апантаная ідэяй выхавання праз мастацкія сродкі, улюбёная ў сваю справу, заўсёды ў творчым пошуку, яна здолела зацікавіць і дзетак, і бабуль, і мацярок. І так кожную суботу мы збіраемся ўсе разам, каб далучыцца да таямніц, сакрэтаў народных рамёстваў.

Вучымся працаваць з прыродным матэрыялам, з саломкай, пляцём паясы і розныя ўпрыгожанні, знаёмімся з элементамі народных вышыванак і ткацтва. Вядома, такія сустрэчы заўсёды непаўторныя, напоўнены дабрынёй, радасцю, спагадай.

Прадбачу да сябе пытанне: як могуць працаваць у класе столькі гурткоў па інтарэсах, у якіх кожны вучань зацікаўлены справай?

Так, сапраўды гурткоў шмат.

Па-першае, каб папярэдзіць празмерную стамляльнасць дзяцей, стараюся забяспечыць максімальную эфектыўнасць кожнага ўрока, папярэджваю дамашнімі заданнямі.

Улічваючы працу з беларускамоўнымі класамі, сама праводжу ўрокі толькі па чытанні, пісьму і матэматыцы. Астатнія ўрокі вядуць настаўнікі-прадметнікі. Прыцягненне да работы ў сваіх класах іншых настаўнікаў, кіраўнікоў заняткаў па інтарэсах стварыла своеасаблівую атмасферу даверу і адказнасці. Ад мяне ж патрабуецца ўмелая каардынацыя актыўнага ўдзелу кожнага дзіцяці ў такіх карысных справах.

Алена КЛІНАВА,
настаўніца вышэйшай катэгорыі школы №3 Лепеля.

# ТЭСТ-КАНТРОЛЬ "ЭЎРЫКІ"

**У нумары газеты ад 29.10.94 г. мы расказалі пра агульнае прызначэнне комплексу камп'ютэрнай падтрымкі курса матэматыкі пад назвай "Эўрыка", які рэалізаваны для камп'ютэраў "Карвет". А сёння мы разгледзім структуру праграм "Тэст-кантроль", якія ўваходзяць у комплекс, і асаблівасці методыкі іх выкарыстання.**

Вядома, што тэсціраваны кантроль ведаў шырока выкарыстоўваецца ва ўсіх развітых краінах свету. Гэта тлумачыцца, з аднага боку, асаблівасцямі замежнай школы выкладання, на якую непазбежна аказваюць свой уплыў дэмакратычныя традыцыі грамадства. З другога — такі від навучання мае шэраг пераваг перад традыцыйнай кантрольнай работай. Пералічым некаторыя з іх.

Па-першае, тэсціраванае апытанне ахоплівае больш шырокі спектр задач дзякуючы эканоміі часу за кошт адсутнасці такой часткі, як афармленне рашэння задачы ці прыкладу. Гэта дазваляе вынесці больш дакладную ацэнку ўзроўню ведаў вучняў.

Па-другое, канструкцыя тэст-задання, як правіла, патрабуе творчага прымянення ведаў. Многія заданні носяць комплексны характар, гэта значыць дазваляюць правяраць глыбіню ведаў па некалькіх тэмах, уключаючы ў сябе, такім чынам, элементы паўтарэння.

І па-трэцяе, выбар правільнага адказу з некалькіх прапанаваных развівае інтуіцыю, здольнасць якаснай ацэнкі выніку. Такія ўменні з'яўляюцца агульнаадукацыйнымі і маюць высокую дыдактычную значнасць.

Адзначым, што адносіны да тэсціраванага апытання айчынных метадыстаў неадназначныя. Але несумненна тое, што існуе тэндэнцыя да вывучэння замежнага вопыту ў гэтым напрамку і выкарыстання тэсціраванага апытання ў нашай школе.

У комплексе "Эўрыка" рэалізаваны камп'ютэрны тэсціраваны кантроль ведаў з улікам усіх пераваг вылічальнай тэхнікі, такіх, як імгненнае атрыманне выніку, дыферэнцаванне працэсу апытання, выстаўленне сярэдняга бала па ходу апытання і інш.

Адной з сур'ёзных метадычных задач з'яўляецца распрацоўка тэст-заданняў. Да іх прад'яўляюцца пэўныя патрабаванні: лаканічнасць формы, нешаблоннасць, тэсціраванне некалькіх уменняў на прыкладзе аднаго задання, папярэджанне тыповых памылак, вынікі якіх закладваюцца ў прапануемыя адказы.

Комплекс "Эўрыка" змяшчае тэставыя кантрольныя апытанні па ўсіх тэмах алгебраічнай лініі школьнага курса матэматыкі з 5 па 11 клас. Гэта каля 2500 тэст-заданняў. Кожная тэст-кантрольная работа ахоплівае матэрыял адной главы падручніка для данага класа і мае ў сярэднім 45 тэст-заданняў, якія разбіты на тры ўзроўні складанасці: А (нізкі), В (сярэдні) і С (высокі). Акрамя гэтага, ёсць заданні павышанай складанасці— катэгорыя "СУПЕР" і заданні на аператыўнасць мыслення (па 3 пытанні ў кожным заданні) з абмежаваннем часу на адказ — катэгорыя "БЛІЦ".

Вучню пры апытанні прапануецца адказаць на 12 адвольна згенерыраваных пытанняў з усяго мноства заданняў па данай тэме. Да кожнага з пытанняў (заданняў) прапануецца 5 магчымых адказаў. Для прадухілення ўгадвання адказу, а таксама для прадбачання ўсялякіх адказаў вучняў 6-м адказам даецца варыянт: "Правільны адказ не названы".

Для папарэджання запамінання адказаў прадугледжана іхператасоўка пры паўторнай рабоце. Акрамя гэтага, некаторыя заданні знешне падобныя, але маюць розныя адказы.

Усе пытанні ўзроўню "А" і значная частка пытанняў узроўню "В" усіх тэст-кантрольных адносяцца да абавязковых вынікаў навучання.

Для адказу на многія пытанні займацца фармальнымі падлікамі неабавязкова. Дастаткова правесці якасны аналіз адказаў і адкінуць заведама не падыходзячыя. Гэта дазваляе развіць логіку мыслення, інтуіцыю, папярэдзіць фармальнае засваенне матэматыкі.

Усе праграмы комплексу "Эўрыка" маюць 2 агульныя рэжымы работы: "ТРЭНІРОЎКА" і "КАНТРОЛЬ". У рэжыме "ТРЭНІРОЎКА" вучань можа ўстанавіць сам альбо па парадзе настаўніка індывідуальны рэжым работы з праграмай.

Разгледзім індывідуальныя рэжымы работы і іх прызначэнне.

1. "АДНА СПРОБА", "ДЗВЕ СПРОБЫ" на адказ.

Гэты рэжым дазваляе вучню зрабіць адну памылку пры адказе на пытанне. Тым самым даецца магчымасць прааналізаваць сваю памылку, звузіць вобласць пошуку адказу. Такі рэжым пажаданы для вучняў, якія не ўпэўнены ў сваіх сілах ці маюць нізкі ўзровень падрыхтоўкі.

2. Паказ памылкі АДРАЗУ альбо ў КАНЦЫ ўсяго апытання.

Калі вучань выбраў рэжым "АДРАЗУ", то ў выпадку памылкі яго адказ адзначаецца знакам "-", а правільны адказ — знакам "+". Гэта дазваляе адразу высветліць, у чым была памылка, і папярэдзіць яе з'яўленне ў далейшым. Такі рэжым лепей выкарыстоўваць вучню з рухомай нервовай сістэмай, які валодае павышанай самаацэнкай, а таксама вучням са слабымі ведамі.

3. МЯККІ рэжым — змяненне ўзроўню складанасці заданняў у залежнасці ад паспяховасці адказаў, ЖОРСТКІ — пытанні ўсіх узроўняў складанасці прад'яўляюцца ў адвольным парадку, як пры звычайнай кантрольнай рабоце.

Вынікі памылковых адказаў на пытанні "СУПЕР" і "БЛІЦ" у кантрольным рэжыме аўтаматычна не ўлічваюцца.

Пры растлумачванні сутнасці гэтых рэжымаў вучням дастаткова сказаць, што пры рабоце ў МЯККІМ рэжыме ім будзе лягчэй.

4. ЧАСОВЫ рэжым прадугледжвае ўстаноўку любой працягласці апытання з накапленнем часу пры датэрміновым адказе. Лёгка падлічыць, што, устанавіўшы 120 сек. на адказ на 1 пытанне, на ўсе 12 пытанняў спатрэбіцца не больш як 24 хвіліны.

Часовым рэжымам неабходна карыстацца з вялікай асцярожнасцю.

Усяго прадугледжаны 16 камбінацый указаных рэжымаў, што дае магчымасць значна дыферэнцаваць гэты від навучальнай дзейнасці.

### Методыка работы з праграмамі "ТЭСТ-КАНТРОЛЬ"

Вучням растлумачваюцца правілы работы з камп'ютэрам і дазваляецца адзін раз паспрабаваць адказаць на пытанні тэст-кантрольнай у трэніровачным рэжыме. Пры адказах пажадана праводзіць усе падлікі і пераўтварэнні на чарнавіку.

Другі "праход" усе вучні павінны зрабіць у кантрольным рэжыме. Для гэтага настаўнік прапануе ўсім устанавіць кантрольны рэжым апытання. Патрэбна папярэдзіць вучняў, што ў процілеглым выпадку адзнака за працу будзе нездавальняючай. Таксама забараняецца адказваць пад чужым прозвішчам. Непажадана шматразовая работа вучня з адным і тым жа тэст-апытаннем, таму што пры гэтым павялічваецца магчымасць запамінання адказаў вучнем. Адзін раз у тыдзень пажадана праводзіць паўтарэнне, выкарыстоўваючы пры гэтым як тэст-кантрольныя папярэдняга, так і данага класа.

Пасля вывучэння матэрыялу главы падручніка ў адпаведнасці з навучальнай праграмай па матэматыцы можна правесці тэст-апытанне па данай тэме. Суадносіны гэтага апытання з планавай кантрольнай работай залежаць ад мэты настаўніка. Калі мэтай з'яўляецца актыўнае паўтарэнне і структурыраванне матэрыялу, атрыманне настаўнікам звестак аб узроўні авалодання вучнямі данай тэмай, то тэст-апытанне праводзіцца за некалькі дзён да планавай кантрольнай работы. Пасля кантрольнай работы яго можна правесці як адну з форм заліку па матэрыялу пройдзенай тэмы.

Улічваючы, што колькасць камп'ютэраў у стандартным камлпекце не больш за 12 машын, магчымы наступныя формы арганізацыі навучальнага працэсу:

1) За камп'ютэрам працуюць 2—3 вучні прыкладна аднолькавага ўзроўню падрыхтоўкі. Ім выстаўляецца агульная адзнака, якую яны атрымалі сумеснымі дзеяннямі.

2) За камп'ютэрам працуюць 2—3 вучні рознага ўзроўню падрыхтоўкі. Пры гэтым "моцны" вучань можа працаваць за клавіятурай і каменціраваць адказы двух другіх вучняў і рэакцыю камп'ютэра, выконваючы пры гэтым ролю настаўніка.

3) За камп'ютэрам працуюць па 1 вучню. Праца праводзіцца пачаргова рознымі катэгорыямі вучняў па 13—15 хвілін для кожнай групы. У той час калі вучні адной з груп працуюць за камп'ютэрам, астатнія могуць альбо сачыць за працай першай групы (пажадана пры гэтым, каб першай працавала больш моцная група), альбо займацца іншай навучальнай працай (выкананнем дамашняга задання, самастойным вывучэннем новага матэрыялу, рашэннем задач). Праз 15 хвілін месца першай групы займае другая, а яшчэ праз 15 хвілін — трэцяя.

У заканчэнне дададзім, што гэта толькі самыя агульныя рэкамендацыі па рабоце з праграмай "Тэст-кантроль" і што мы спадзяемся на творчае прымяненне настаўнікамі ўсіх праграм комплексу "Эўрыка".

Валерый КАЗАКОЎ,
дырэктар навукова-метадычнага цэнтра.

